# Лабірынт



№16, студзень 2012

*Студэнцкая гістарычная суполка “Аматары Беларускай Гісторыі імя В. Ю. Ластоўскага”*





## Адам Станкевіч зь верай пра Беларусь

120 год таму нарадзіўся лідэр беларускага каталіцкага адраджэньня - Адам Станкевіч. Зьявіўся на свет ў вёсцы Арляняты Ашмянскага павету Віленскай губэрні (цяпер Смаргонскі раён, Гарадзенская вобласьць) у сялянскай сям'і беларусаў-католікаў Вінцука і Антаніны Станкевічаў. Пачаў адукацыю ў царкоўна-прыходзкай школе ў в. Баруны, але праз год яго перавялі ў Гальшанскую народную школу. Далей вучыўся ў гарадзкой вучэльні ў Ашмянах. Скончыў Віленскую духоўную сэмінарыю (1914) і духоўную акадэмію у Санкт-Пецярбурзе (1918). Супрацоўнічаў зь беларускімі часопісамі «Сьветач» і «Дзяньніца». 24 — 25 траўня 1917 году у Менску ўдзельнічаў у зьезьдзе беларускага каталіцкага духавенства. Адзін зь першых пачаў ужываць беларускую мову ў багаслужэньні. 3 1919 году выкладаў рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі. У 1922 — 1928 гадох быў абраны паслом да польскага Сойму зь ліста Блёку нацыянальных меньшасьцяў. Пасьля зноў выкладаў рэлігію ў Віленскай беларускай гімназіі, адкуль у 1933 годзе быў звольнены польскімі ўладамі. Да 1935 году працаваў у гандлёвай школе ў Вільні.

Апекваўся дзіцячымі прытулкамі, узначальваў Камітэт дапамогі ахвярам вайны, у 1924 годзе старшыня Таварыства беларускай школы, у 1926 годзе старшыня Беларускага інстытуту гаспадаркі і культуры. Быў галоўным рэдактарам і выдаўцом газэты беларускіх каталікоў «Крыніца», а потым выдаваў часапіс «Хрысьціянская думка» ў 1927 — 1938 гадох. У 1928 годзе сумесна зь іншымі дзеячамі заснаваў Беларускае каталіцкае выдавецтва. За дзейнасьць па беларусізацыі Касьцёла ў 1938 годзе высланы польскімі ўладамі зь Вільні ў Слонім тэрмінам на 5 гадоў. Увосень 1939 году, пасьля заняцьця Заходняй Беларусі савецкімі войскамі, вярнуўся ў Вільню, дзе стаў дырэктарам Беларускай дзяржаўнай прагімназіі. Там жа перажыў Другую сусьветную вайну, будучы сьвятаром касьцёла сьвятога Міхала. Арыштаваны савецкімі ўладамі 7 сьнежня 1944 году, але неўзабаве адпушчаны. Паўторна арыштаваны 13 красавіка 1949 году, прысуджаны да 25 гадоў лягераў. Адпраўлены ў Азярлаг (лягер сыстэмы ГУЛАГ у Тайшэце, Іркуцкая вобласьць, Расея), дзе і памёр у той жа год. Пахаваны 10 сьнежня 1949 году на могілках палітзьняволеных каля вёскі Шаўчэнка Тайшэцкага раёну.



# Місія Торвальда Вандроўніка

У 1992 годзе менскі гісторык Сяргей Тарасаў заўважыў супярэчнасць паміж афіцыйнай канцэпцыяй хросту Беларусі з Кіева ля 988 году і фактамі моцных сувязяў тагачаснага Полацка і Турава з Скандынавіяй.



Сённяшні артыкул прысвечаны малавядомым і сенсацыйным падзеям хросту палачан каля 986 году, адноўленым на падставе скандынаўскіх крыніцаў. Наш герой вікінг Торвальд сын Кодрана па мянушцы Вандроўнік (Thorvald Kodrasson) нарадзіўся каля 950 году на поўначы Ісландыі ля затокі "Скага" (Skagafjord) у найбольш вулканічнай зоне краіны. Ягоны жыццярыс "Апавяданне пра Торвальда Вандроўніка" захаваўся ў тэкстах трох ісландскіх сагаў: "Сага пра Ўлава Трыгвасона", "Флатэйр кніга" і "Сага пра Хрост". Інфармацыю пра Торвальда змяшчаюць таксама розныя еўрапейскія кронікі, што дае ўсе падставы лічыць яго рэальнай гістарычнай асобай.

У маладосці Торвальд служыў памочнікам дацкага караля Свэна па мянушцы "Вілабароды". Заўважым, што кароль Даніі (960-1014) і Ангельшчыны (1013-1014) Свэн часта бываў на славянскіх землях ўсходняй Балтыкі. Ягонай жонкай была дачка польскага караля Мешка I. Разам з Торвальдам дацкі кароль арганізоўваў набегі на Ірландыю і Валію. Ужо пад час паходаў выявілася незвычайная для вікінгаў рыса Торвальда усю сваю здабычу ён мяняў на захопленых палонных, якіх адпускаў дахаты. Між іншым, дзякуючы гэтаму валійскія князі аддалі аднойчы Торвальду захопленага імі караля Свэна. У Ірландыі Торвальд упершыню сутыкнуўся з верай Хрыстовай. Багацце і глыбіня новага вучэння так ўразілі вікінга, што ён кінуў рыцарскія ўчынкі і падаўся ў Саксонію, дзе ў 980 годзе прыняў хрост ад тамтэйшага біскупа Фрэдрыка.

Разам з біскупам у 981 годзе Торвальд адправіўся на радзіму, "каб прывесці сваіх братоў у святло праўдзівай веры." Галоўны абавязак місіі выпаў на Торвальда, "бо біскуп Фрэдрык не ведаў мовы краіны." У той 981 год ісландцы на чале з Эрыкам "Рудабародым" адкрылі Грынландыю. Спачатку справа хросту пайшла выдатна. Хрысціянства прынялі родзічы і суседзі Торвальда. Упершыню праз 106 гадоў ад часу засялення ў Ісландыі паўстала першая царква. Але паганцы пачалі супраціў. Надзейнай зброяй стаў жарт. Юнакі стваралі абразлівыя частушкі пра прапаведнікаў, якія спявалі на кірмашах. Напрыклад:

"Біскуп 9 дзетак нарадзіў,
Торвальд быў бацькам ім."

Раз'юшаны Торвальд забіў двух насмешнікаў. У адказ суродзічы сабралі 240 чалавек, спалілі царкву і сядзібу Торвальда, забілі багата хрысціянаў. Прапаведнікі мусілі ўцякаць. Менавіта тады Торвальд даў абяцанне: "ніколі не вяртацца на Радзіму і прывесці да святла веры Хрыстовай хаця б адзін народ." Гісторыя наканавала, каб гэтым народам сталі беларусы.

У 985 годзе праз Ерусалім Торвальд прыехаў у Царград (Канстанцінопаль). Тут знаны вікінг, да таго ж сябар караля Даніі, сустракаецца з самым імператарам Васілём II па мянушцы "Забойца балгараў" і патрыярхам Мікалаем II. На просьбу Торвальда імператар выдае грамату, згодна якой Торвальд прызначаўся "паўнамоцным прадстаўніком Візантыі да рускіх князёў ў краінах Усходняй Балтыкі." Князі (мелася на ўвазе Полацка, Ноўгарада і Пскова) мусілі выконваць усе парады Торвальда. Заўважым, што менавіта ў часы

Васіля II Візантыя дасягнула вяршыні сваёй магутнасці. Пад яе кантроль трапілі Балгарыя, Арменія, Грузія, паўднёвая Італія і, нарэшце, Кіеўская Русь. У 988 годзе вялікі князь кіеўскі Ўладзімір прызнаў сябе васалам імператара, прыняў хрост, прызнаў духоўную ўладу грэцкага мітрапаліта і ажаніўся на сястры Васіля II. Такім чынам, выдача Торвальду граматы да полацкага князя выглядае цалкам лагічна. Гэтым полацкім князем быў Рогвалад (Ragnvald) скандынаўскі конунг, што згодна старабеларускім летапісам прыплыў "изь заморья имаше власть свою в Полотьске". Каля Стакгольма (Салентуна) захаваўся рунічны камень, пабудаваны ў памяць маціхрысціянкі "каралём Рангвальдам", магчыма з Полацка.

У сагах Полацак вядомы як Палтэск'я/Palteskia. Адразу падкрэслім, што назва гэтая з'яўляецца транслітарацыяй старабеларускай назвы. Пад гэтаю назваю горад ўзгадваецца ў шэрагу скандынаўскіх твораў. Найбольш стары сьпіс "Нарыс зямлі I" (апошняя чвэрць XII ст.). Полацак прысутнічае таксама ў сазе "Дзеі данаў" Саксона Граматыка, каралеўскай сазе "Пра дзеі аб Эймундзе", "Сазе пра хрост", "Сазе пра Одда Стралу" ды іншых сагах.

Шмат рунічных надпісаў выяўлена ў Беларусі. Асабліва вылучаюцца абшары Падзвіння. Касцяная біта для гульні з рунічным надпісам была выяўленая ў часе раскопак 1961-1962 гадоў у Полацку. Рунічны надпіс "Karl" азначае "карысць". Каля 100 рунічных надпісаў на косці былі знойдзеныя беларускімі археолагамі ў Маскавічах абарончым фарпосце Полацкага княства на паўночным захадзе. Гэта буйнейшая знаходка рунічных надпісаў на ўсходзе Балтыйскага рэгіёну. Усяго на 86 касцях накрэмзана каля 265 рунічных знакаў малодшага (старашведскага) альфабэту. Сярод надпісаў розныя паганскія магічныя замовы, варажскія імёны. Знаходкі рунічных надпісаў даюць падставы казаць пра міжэтнічнае культурнае ўзаемадзеянне паміж шведамі і крывічамі. Сярод 300 знакаў, якімі карысталася насельніцтва Маскавічаў ёсць 11 літараў кірылічнага альфабэту.

Ананімная сага (канец XII ст.) пералічвае рэкі Ўсходняй Еўропы, якія мелі выключную вагу ва ўсходнім гандлі вікінгаў. Дык вось, з шасці рэчак тры беларускія. Гэта Дзвіна (Duna), Дняпро (Nepr) і невялікая Друя (Drofn). Дзвіна ўзгадваецца ў надпісах рунічных камянёў. Напрыклад: "Сумір загінуў на Ўсходзе ля вусця ракі Дзвіна". Гэтыя факты сведчаць пра асаблівае эканамічнае і палітычнае становішча Полацкага княства ў скандынаўскай мінуўшчыне.

Полацак стаўся цэнтрам першага княства на абшарах сучаснай Беларусі. Менавіта з вікінгамі-русамі наўпрост звязана з'яўленне места Полацкага ў гісторыі. Першае паведамленне пра Полацак датуецца 862 годам, калі варажскі конунг Рурык/Rorik аддаў умацаванае паселішча Полацкае аднаму з сваіх ярлаў: "овому Полотеск, овому Ростов, другому Белоозеро". Найбольш раннія "гарадскія" рэчы Полацка паходзяць менавіта з другой паловы IX ст. Пра існаванне ранейшага славянскага селішча сведчыць толькі ляпны посуд VIII - першай паловы IX ст. Крывічы былі асноўным насельніцтвам полацкай дзяржавы, празваўшы свайго конунгакнязя славянізаваным прозвішчам "Рогвалад". Хутка Полацкае княства пашырыла свае межы за кошт земляў ліваў і латгалаў. Апошняе, відаць, і выклікала імкненне канкурэнта Ноўгарада на чале з вікінгам Уладзімірам (Valdemar) распачаць татальную вайну. Справа ў тым, што кіеўска-наўгародскі класічны шлях з "варагаў у грэкі" быў менш эфектыўны за ягоны полацкі варыянт. Праз Рыжскую затоку і Дзвіну магчыма нашмат хутчэй выйсці ў Дняпро і Чорнае мора. Такім чынам, як заўважыў дацкі гісторык А. Стэндар-Петэрсан, кіеўска-наўгародская дзяржава "вельмі хутка сутыкнулася з спробаю гегемоніі з боку іншай скандынаўскаславянскай дзяржавы, узнікшай, верагодна, адначасова ў басейне Дзвіны з цэнтрам у Полацку, якая імкнулася пракласці

новы шлях з Балтыйскага мора ў Дняпро". Наступная сумная гісторыя - захоп Уладзімірам Полацка і забойства Рагвалода вядомая. Іншая справа, што ключ да гэтых падзеяў знаходзіцца ў старажытнай Швецыі і барацьбе розных купецкіх карпарацыяў варагаў за вялікі ўсходні шлях. Барацьба Полацка з Ноўгарадам і Кіевам праходзіць скрозь ўсю гісторыю старажытнай Русі: "и оттоле мечь взимають Рогволожи внуци противу Ярославлим внуком".

У 986 годзе Торвальд прыбывае ў Полацак разам з памочнікам Стэўнірам Таргельсанам. Хтосьці з полацкіх варагаў дапамагаў місіянерам з перакладам казанняў на беларускаю мову. Місія была настолькі паспяховай, што Торвальд вырашыў не рухацца далей і застацца ў Полацку. Тут быў пабудаваны храм і кляштар Св. Яна "недалёка ад места пад гарой пад назваю Дрофн". У Полацку адбылася сустрэча Торвальда з іншым вікінгам-хрысціянінам Улавам Трыгвасанам (969-1000). Гэты скандынаў з шляхетнага нарвежскага роду гадаваўся ў Ноўгарадзе, потым служыў у Кіеве. Жонкаю Ўлава была дачка польскага караля Баляспава Харобрага. Пасля спаткання ў Полацку Ўлаў адправіўся на Бацькаўшчыну, дзе быў абраны каралём. Малады кароль хрысціў нарвежцаў, і быў прызнаны першым святым ў Нарвегіі. Нацыянальны рух нарвежцаў 19 ст. пачаўся са святкаванняў Дня Святога Ўлава.

Торвальд застаўся намеснікам створанага ім кляштара Св. Яна і памёр у Полацку ля 1000 году. Верагодна, скандынаўскі прапаведнік загінуў у час штурму горада войскамі вялікага князя Ўладзіміра - ворага полацкай дзяржавы. Свой паход на Полацак Уладзімір рыхтаваў у Швецыі, дзе тры гады на грошы купцоў Ноўгарада збіраў вікінгаў, каб знішчыць у пень ненавісны горад на Дзвіне - гандлёвы канкурэнт Ноўгарада і Пскова. Як вядома, на загад Уладзіміра абаронцы горада былі жорстка забітыя. Замак быў зруйнаваны і паўстаў на новым месцы. Уладзімір, на вачах Рогвалада, згвалціў Рагнеду (Ragnhild), а потым забіў полацкага князя ды ўсіх ягоных сыноў. Там, хутчэй за ўсё, знаходзіўся і наш Торвальд, які загінуў, калі, магчыма, абараняў дзетак князя ад гвалту.

У той самы 1000 год па іроніі лёсу хрысціянства было прызнана на далёкай Бацькаўшчыне Торвальда ў Ісландыі. Зноў жа ў той самы год лёс звёў ў бітве ля Свальдэра двух сяброў Торвальда: караля Даніі Свэна і Нарвегіі Ўлава. Малады нарвежскі кароль загінуў ад рукі старэйшага ворага. Праз 50 гадоў, каля 1050 году, Полацак адведаў вікінг Бранд. Ён прыйшоў да магілы Торвальда ў полацкі кляштар, што насіў ягонае імя. Па сведчанні Бранда тагачасныя палачане ўважалі Торвальда "сваім вялікім святым". Полацкая дынастыя і надалей мела шчыльныя сувязі з Скандынавіяй. Напрыклад, кароль Даніі Вальдэмар I Вялікі ажаніўся з дачкою князя полацкага і менскага Валадара Глебавіча Соф'яй Менскай (1141-1198).

Такім чынам хрост Беларусі (прынамсі яе першай гістарычнай дзяржавы) адбыўся не ў 988, але ў 986 годзе. Полацкі летапіс, дзе, напэўна, былі звесткі пра гэта, нажаль, не захаваўся. Як вядома ў 18 ст. з ім працаваў расейскі гісторык Тацішчаў, але потым гэты летапіс знік. Верагодна па загаду Кацярыны II, бо звесткі гэтага летапісу супярэчылі афіцыйнай канцэпцыі расейскай гісторыі. У гэтай канцэпцыі забойца і гвалтоўнік Уладзімір быў "святым", "Владимиром Красное солнышко".

Падкрэслім, што апісаныя мною полацкія падзеі адбываліся ў час царкоўнай еднасці, да падзелу на праваслаўных і каталікоў у 1054 годзе. Такім чынам, ад самых пачаткаў хрысціянская культура Беларусі была адкрытая Поўначы і Ўсходу. Сёння імя нашага першага прапаведніка невядома грамадству. Але час "збору каменняў" прыйшоў. У вольнай Беларусі ў гонар нашага першага святога трэба будзе паставіць храм ды стварыць абраз Св. Торвальда - сімвала духоўнай еднасці

беларусаў. Прыканцы нагадаем асноўныя факты першых беларускаскандынаўскіх хрысціянскіх стасункаў:

1. Менавіта ў скандынаўскіх, а не славянскіх пахаваннях сустракаюца першыя памяткі хрысціянскага культу (нацельныя крыжыкі і свечкі).

2. Заснаванне скандынаўкай Рагнедай другага манастыра ў Беларусі (ля 1005 г.)

3. Заснаванне вікінгамі (Сымон і Афрыкан) першага манастыра на ўкраінскіх землях: Кіева-Пячорскай Лаўры.

4. Заснаванне князем Святаполкам ў 1005 годзе ў Тураве царквы па лацінскаму абраду. Князь Святаполк быў родзічам сябра Торвальда караля Даніі Свэна "Вілабародага", абодва ўладары былі жанатыя на сёстрах - дочках караля Баляслава Харобрага. Паводле тураўскіх паданняў першыя прапаведнікі прыплылі ў места па Прыпяці на "святых" каменных крыжах (тры з якіх захаваліся). Цікава, што падобныя легенды ў Еўропе былі звязаныя з дзейнасцю ірландскіх місіянераў.

**Артыкул:** *Андрэя Катлярчука*



## Горкая гісторыя беларускіх помнікаў культуры і архітэктуры

### Сляды спадчыны ў Снове

Радзіма прэм’ер-міністра Міхаіла Мясніковіча – вёска Сноў – славутая не толькі агракультурнымі дасягненнямі. У гэтым спадчынным радзівілаўскім мястэчку да нашых дзён захаваліся велічны класіцыстычны палац Рдултоўскіх, арыгінальны сядзібавы дом роду Гартынгаў, а таксама дзве старыя святыні – касцёл Яна Хрысціцеля і царква Святых Касмы і Даміяна. Аднак не ў кожны з гэтых аб’ектаў можна лёгка патрапіць.



Сёння на тэрыторыі рэзідэнцыі Рдултоўскіх знаходзіцца вайсковы шпіталь, які размясціўся ў самім палацы.

З гэтай прычыны тэрыторыя закрытая, таму, каб патрапіць на яе, трэба прайсці кантрольна-прапускны пункт. Аднак на КПП вам паведамяць, што праход на тэрыторыю шпіталя забаронены. Экскурсія магчымая толькі вакол палаца.

Мясцовыя жыхары кажуць, што за ўсю прысутнасць тут савецкіх, а пасля беларускіх вайскоўцаў будынак палаца так і не дачакаўся належнага рамонту – не было сродкаў. Але дзякуючы вайскоўцам будынак з усім вонкавым дэкорам цалкам захаваўся да нашых дзён. Палац функцыянуе, што пакідае надзею на далейшую яго «кансервацыю» ад знішчальніцкай дзейнасці метэаралагічных умоў і чалавека, пакуль сюды не прыйдуць больш светлыя часы. А вось трапіць у сядзібу Гартынгаў даволі проста: трэба спытаць у мясцовых жыхароў, дзе знаходзіцца бальніца. Гэта арыгінальны кампактны дамок на ўзвышку з садова-паркавым атачэннем і характэрным бальнічным пахам усярэдзіне. Каб уявіць ранейшую ўнутраную аздобу добра захаваных пакояў, трэба пафантазіраваць.

*Працяг у наступным нумары…*



# Узгадка пра Глыбокае ў 1414 годзе аказалася памылкай гісторыка




"Узрост" Глыбокага чарговы раз выклікае пытанні. Спроба даведацца болей пра згадку Глыбокага ў 1414 годзе прывяла аўтара гэтых радкоў да пераканання, што гэтай згадкі… не было. Высветлілася, што гэта проста памылка польскага гісторыка.

Сенсацыйная навіна – што Глыбокае ўзгадваецца ў 1414 годзе - разляцелася ў 1990-х, калі ў рукі краязнаўцам трапіла ксеракопія з "Вітальдыяны", зборніка прывілеяў Вітаўта, выдадзенага ў 1988 годзе ў Польшчы пад рэдакцыяй Ежы Ахманьскага.

Словы пра Глыбокае можна прачытаць у анатацыі да страчанага прывілею вялікага князя Вітаўта, які ў 1414 годзе пацвердзіў Зяновічу правы на вялікія ўладанні, у тым ліку "маёмасць, нададзеную яму Уладзіславам Ягайлам паміж Глыбокім і Паповічамі". Вось за яе і ўхапіліся ўзрадаваныя краязнаўцы і нават здолелі пераканаць мясцовыя ўлады, што ў 2014 годзе трэба адсвяткаваць 600-годдзе Глыбокага.

Але аўтар гэтых радкоў вырашыў даследваць тэму крыху глыбей. І вось тут пачалі высвятляцца цікавыя дэталі…

Сам Вітаўтаў прывілей Зяновічу даўно страчаны. Пра пергамент з 1414 года, да якога прымацаваная вялікакняская пячатка, піша ў тэстамэнце 1611 года ўладальнік Смаргоні і Глыбокага Кшыштаф Зяновіч. Ён наказвае дзецям берагчы гэты дакумент, які знаходзіўся "ў дубовай скрыні ў мураваным склепе" у Смаргоні, галоўным маёнтку Зяновічаў. Ніводнай цытаты з прывілею ў тэстамэнце няма.

Адкуль гісторыкам вядома пра змест прывілею? У 1817 годзе Зяновічы прадставілі дваранскаму згуртаванню Мінскай губерні вытрымку з Ашмянскіх земскіх кніг, дзе ў 1626 годзе быў запісаны тэкст прывілею або яго частка. Ашмянскія кнігі загінулі ў агні ў 1837 годзе, а дакумент 1817 года адшукаў у адной з варшаўскіх бібліятэк гісторык Румбальт Полацкі. У сваім артыкуле "Z dziejów starostwa Dziśnieńskiego", надрукаваным у 1913 годзе ў зборніку "Літва і Русь", ён прыводзіць дзве цытаты з прывілею – адну на лаціне, другую па-польску.

Першая цытата: "Quas omnes haereditates videlicet lacus praefatus Zenowicz, filius Bratosin, ex donacione ser[reni] ssi[mi] principis et domini Vladislai Dei Gr[atiae] Regis Pol[oniae] nec non Supr[emi] Ducis Lith[uaniae], fratris mei clarissimi, nec non ex succesione haereditaria est assecutus cim hominibus et singulis proventibus, agris et pratis".

Далей гісторык пераказвае змест дакумента – "Вітаўт пацвярджае Зяновічу права на ўладанне Myssę, Czordlonę, Hisznew над возерам Spiahlo, Czeczelicze з людзьмі рознымі (пастырамі конскімі, парабкамі) над возерам Narocz у паветах Miadiolskim і Markowskim, а таксама іншымі вёскамі і азёрамі, як Postawy, Mopow, Borowicze", і прыводзіць яшчэ адну цытату: "з абмежаваннем іх межаў да рэк Osiercewicze, Chodogewicze, Gaprzyłuh, Łuczeczyce, Płocki, Ryczecy, Miedzielica, Kurowica, Łusica, Olbiecia, Dzisna, Berezwica і t.d... aż do granic Polockich".

Усё. Высветліць болей пра загадкавы прывілей нам не ўдалося.

Цікавая дэталь - дакумент з 1817 года кажа пра 1409 год як пра дату выдання Вітаўтава прывілея. Абапіраючыся на яе, Паставы ў 2009 годзе адзначылі сваё 600-годдзе. Тэстамэнт

Кшыштафа Зяновіча, як мы ўжо згадвалі, гаворыць пра 1414 год. Такія супярэчнасці прымушаюць засумнявацца ў сапраўднасці дакумента. Вядома, што падробкі дакументаў у мінулыя стагоддзі былі досыць распаўсюджанымі.

Але вернемся да нашай тэмы. Як чытач ужо заўважыў, згадкі пра Глыбокае ў вышэйпрыведзеных цытатах няма. Дык адкуль жа словы пра ўладанні "паміж Глыбокім і Паповічамі" ўзялася ў Ахманьскага?

Каб знайсці адказ на гэтае пытанне, дастаткова, чытаючы "Z dziejów starostwa Dziśnieńskiego", апусціць вочы на некалькі радкоў ніжэй. "З іншых крыніц, - піша Р. Полацкі, - ведаем, што каля 1380 года Уладыслаў Ягела зрабіў protoplaście роду Корсакаў праз наданне ста міляў квадратных зямлі ў межах даўнага Полацкага ваяводства". Гісторык цытуе радавод Корсакаў, складзены ў 1718 годзе, дзе гаворыцца, што "rex dedit ei in haereditatem bona a Głębokie usque Popowicze" ("кароль надаў у валоданне маёмасць паміж Глыбокім і Паповічамі").

Гэтая цытата і патрапіла ў анатацыю Ахманьскага. Прычым цалкам выпадкова. Відавочна, што яна не мае аніякага дачынення да прывілею Вітаўта, нададзенага Зяновічу. У радаводзе, складзеным напачатку XVIII стагоддзя, узгадка пра Глыбокае была патрэбная, каб даць чытачу ўяўленне пра лакалізацыю Корсакавых маёнткаў – аднак яна ніякім чынам не сведчыць пра існаванне Глыбокага ў час, калі гэтыя ўладанні былі імі атрыманыя.

Выглядае на тое, што Е. Ахманьскі вельмі паспешна праглядаў працу Р. Полацкага і дапусціў такую памылку.

Такім чынам, за першую згадку пра Глыбокае трэба лічыць занатаваную ў Літоўскай Метрыцы судовую справу з 1514 года. Тады "старац" двара Глыбокае забіў селяніна з Верхняга ды адабраў у яго пуд мёду, купленага на торгу ў Глыбокім. Скаргу падаў віленскі ваявода Мікалай Радзівіл, якому належала Верхняе. "Старац" быў прызнаны вінаватым, і мусіў выплаціць дзесяць коп (600) грошаў. Падзеі таго году, захаваныя ў дакументах, нагадваюць сучасную крымінальную хроніку, і мы да іх яшчэ вернемся.

Атрымліваецца, што ў 2014 годзе глыбачанам давядзецца адзначыць не 600-годдзе, а 500-годдзе. Усё роўна круглая дата. Толькі невядома, ці пажадаюць улады прызнаваць змену "ўзросту" горада.

А пачатак існавання Глыбокага аніяк не тоесны з першай пра яго згадкай. У 1514 годзе, паводле Літоўскай Метрыкі, у Глыбокім ужо праходзілі "таргі", што сведчыць пра значэнне паселішча сярод навакольнай акругі Пра стары ўзрост Глыбокага сведчаць і археалагічныя дадзеныя - на беразе возера Кагальнага знаходзяць кераміку X – XII стагоддзяў. Праўда, археолагі кажуць пра адсутнасць знаходак XIII-XV стагоддзяў, што можа сведчыць пра "перапынак" у існаванні паселішча.

**Артыкул:** *Кастусz Шыталz.*



# Археалогія Беларусі

## Знойдзены рэшткі старажытнага Лаўрышаўскага манастыра

Яго заснаваў «паміж Наваградкам і Літвой» літоўскі князь Войшалк, каб хрысціць язычніцкіх супляменнікаў.

Аб гэтым паведаміў доктар гістарычных навук, прафесар кафедры гісторыі Беларусі і паліталогіі Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Сяргей Рассадзін 6 студзеня на відэабрыфінгу ў Мінску.

Паводле яго слоў, Лаўрышаўскі манастыр быў духоўнай метраполіяй Вялікага Княства

Літоўскага. Згодна з летапіснымі звесткамі, у другой палове XIII стагоддзя ён быў заснаваны паблізу Навагрудка літоўскім князем Войшалкам, каб хрысціць язычніцкіх супляменнікаў.

Як паведаміў Рассадзін, раскопкі вяліся ў ліпені-жніўні 2011 года ў раёне сучаснага Свята-Елісееўскага Лаўрышаўскага мужчынскага манастыра.

Яны былі ініцыяваны ігуменам, які шукаў прычыны стварэння сучаснага манастыра. У работах удзельнічалі студэнты Горацкай сельскагаспадарчай акадэміі.

У працэсе раскопак было знойдзена некалькі слаёў матэрыяльнай культуры: XVI, XV і XIII стагоддзяў, у тым ліку манастырскі посуд, кафельныя печы.

Як заявіў Рассадзін, вынікі раскопак дазваляюць зрабіць выснову, што нават шмат стагоддзяў таму ў манастыры выконваўся манастырскі ўклад. Так, манахі ўстрымліваліся ад ужывання спіртнога. Нягледзячы на тое што была знойдзена дастаткова вялікая колькасць бутэлечнай тары, у ёй не ўтрымліваліся алкагольныя напоі: посуду для іх спажывання таксама не знойдзена.

Разам з тым, як заявіў Рассадзін, «любыя добрыя раскопкі даюць больш пытанняў, чым адказаў». Знаходкі яшчэ трэба дэталёва вывучыць.

Спецыяліст лічыць, што на базе Свята-Елісееўскага Лаўрышаўскага мужчынскага манастыра неабходна стварыць манастырскі археалагічны музей.

*Кожны чалавек - гэта мір, які з ім нараджаецца і з ім памірае; пад усякай магільнай плітай ляжыць сусветная гісторыя.*

*Генрых Гейне*

# 28 студзеня 1577 года Мазыр атрымаў герб



Герб Мазыра — геральдычны сымбаль Мазыра, нададзены месту разам з Магдэбурскім правам вялікім князем літоўскім Стэфанам Баторыем 28 студзеня 1577: «у блакітным полі чорны аднагаловы арол з срэбным шыльдам на грудзях; на шыльдзе — чырвоная літара S» (манаграма Стэфана Баторыя).

Вытрымка з адпаведнага вялікакняскага прывілею: ***“Надаем тому месту нашему печать мескую, то есть Орел з Сэм в нем вырисованым... которую урад меский на судах и иншых справах и потребах меских печатовать и того гербу ужывать мают вечные часы”***

10 верасьня 1609 срэбны шыльд зь літарай зямянілі на празны чырвоны. У XVII ст. пэўны час на шыльдзе быў герб «Трубы» Радзівілаў.

У часе расейскага панаваньня імпэратрыца Кацярына II 22 студзеня 1796 даравала Мазыру новы герб, створаны на падставе папярэдняга. У сучаснай Беларусі зь невядомых прычынаў 22 лютага 1994 статус афіцыйнага геральдычнага сымбалю Мазыра атрымаў расейскі варыянт мескага гербу.

# *Гістарычныя навіны*

Галоўныя падзеі студзеня

## *Аб адкрыцці юбілейнага года Янкі Купалы*

12 студзеня ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы адбылася прэзентацыя ўнікальнага выдання – каталога “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы”.

У 2012 годзе адзначаецца 130-гадовы юбілей класіка беларускай літаратуры. Распачынаюцца юбілейныя мерапрыемствы прэзентацыяй каталога “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы”.

Калекцыя рукапісаў Песняра прадстаўляе сабой унікальны ўзор творчай лабараторыі вялікага паэта і адносіцца да разраду ўнікальных культурных каштоўнасцей. Сярод іх ёсць сапраўдныя рарытэты: рукапісны зборнік “Шляхам жыцця” (раней захоўваўся ў Беларускім музеі ў Вільні), аўтографы паэм “Сон на кургане”, “Бандароўна”, камедыі “Паўлінка”, ранніх вершаў паэта на беларускай і польскай мовах, асабістыя лісты і запісы.

Культурная спадчына надзвычай уразлівая і безабаронная. Часта нават спецыяльная атмасфера музейных сховішчаў не ыратоўвае яе ад натуральнага разбурэння. Асабліва гэта тычыцца пісьмовых крыніц. Галоўная небяспека для гэтых унікальных музейных прадметаў – час, які няўмольна разбурае паперу, на якой пісаліся геніяльныя радкі. Захаваць іх для будучых пакаленняў можна з дапамогай сучасных інфармацыйных тэхналогій. Менавіта ў гэтым заключалася асноўная мэта дадзенага выдання.

Адна з задач – распаўсюджанне ведаў пра гісторыка-культурную спадчыну Беларусі, яе ідэнтыфікацыя і выкарыстанне як на нацыянальным, так і на сусветным узроўні.

Рэалізацыя праекта дазволіла пашырыць доступ да вывучэння ўнікальных помнікаў беларускай нацыянальнай літаратуры і ўвесці ў навуковы зварот вялікую групу рэдкіх рукапісаў, стварыць цэльнае ўяўленне аб дакументальнай спадчыне народнага паэта Беларусі Янкі Купалы, сфарміраваць адносіны да яе як да здабытку беларускай, еўрапейскай і сусветнай культуры.



Прэзентацыя каталога – першае з цэлага шэрагу знакавых мерапрыемстваў, якімі будзе пазначаны юбілейны год Песняра. Ва ўрачыстай цырымоніі адкрыцця прынялі ўдзел Міністр культуры Павел Латушка, старшыня Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА Уладзімір Шчасны, старшыня Міжнароднага фонда Янкі Купалы Вячаслаў Рагойша, пісьменнікі, навукоўцы і музейныя супрацоўнікі.

**Выступленне міністра культуры Рэспублікі Беларусі Паўла Латушкі на прэзентацыі “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы**

У кожнага народа ёсць песняры, якія сілай свайго паэтычнага таленту вызначаюць не

толькі шляхі развіцця роднай мовы, літаратуры, культуры, але і акрэсліваюць нацыянальную ідэнтычнасць, даючы духоўныя арыенціры не аднаму пакаленню. Яны прыносяць славу і пашану свайму народу і з цягам часу становяцца яго сімваламі.

Найважнейшым для беларусаў стала імя Янкі Купалы. Сёлета на дзяржаўным узроўні мы адзначаем 130-годдзе з дня нараджэння класіка беларускай літаратуры.

Сімвалічна, што мы пачынаем святкаваць юбілей менавіта ў музеі Купалы. “Аўтографы першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы” – першы праект у шэрагу запланаваных на 2012 год мерапрыемстваў, прысвечаных гэтай знакавай падзеі.

Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 25 кастрычніка 2011 года № 487 зацверджаны план мерапрыемстваў па правядзенню на тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі культурных акцый з удзелам вядомых дзеячаў літаратуры і мастацтва, творчай і навуковай інтэлігенцыі, стварэнне тэматычных літаратурна-мастацкіх зборнікаў і дакументальна-публіцыстычных праграм па творах Янкі Купалы, правядзенне рэспубліканскага свята паэзіі, выданне факсімільнага асобніка кнігі Янкі Купалы "Шляхам жыцця", кніг, прысвечаных жыццю і творчасці паэта, у серыях "Жыццё знакамітых людзей Беларусі" і "Школьная бібліятэка", добраўпарадкаванне тэрыторый гісторыка-культурных аб'ектаў, звязаных з жыццём і творчасцю песняра, правядзенне капітальнага рамонту будынка музея Янкі Купалы і стварэнне ў ім новай экспазіцыі.

Уладзімір Караткевіч пісаў: “Мы маем шмат каго… І ўсё адно Купала застанецца першай нашай любоўю, нашымі вачыма, нашым сумленнем, нашым вечна жывым сэрцам”.

Ролю Янкі Купалы ў станаўленні беларускай нацыі, мовы і дзяржаўнасці цяжка пераацаніць.

Янка Купала далучыў беларускую культуру да сусветнай, дзякуючы яго творчасці нас ведаюць у многіх краінах. Паэзія беларускага песняра перакладзена амаль на 100 замежных моў. Адзін толькі верш «А хто там ідзе?» гучыць на 84 мовах народаў свету.

Нягледзячы на тое, што кожны год няўмольна аддаляе часы, у якіх жыў і тварыў класік, беларусы здолелі захаваць памяць пра паэта і актуалізаваць купалаўскую спадчыну для нашчадкаў.

Адна з найбольш каштоўных калекцый Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы – «Аўтографы Янкі Купалы». Безумоўна, яна з’яўляецца здабыткам беларускай культуры, але мае і міжнароднае значэнне.

Купала вядомы ў свеце як пачынальнік беларускай класічнай літаратуры, а створаныя ім шэдэўры ўваходзяць у скарбніцу сусветнай спадчыны.

Папулярызацыя музейных прадметаў, звязаных з жыццём і творчасцю Янкі Купалы ў Беларусі і за яе мяжамі будзе садзейнічаць распаўсюджванню беларускіх нацыянальных каштоўнасцей у міжнароднай інфармацыйнай прасторы, а публікацыя яго рукапісаў захавае іх для будучых пакаленняў.

Праект рэалізаваны музеем Янкі Купалы пры падтрымцы Міністэрства культуры і Нацыянальнай камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКА.

Каталог рукапісаў паэта стане значным унёскам у беларускае музеязнаўства і літаратуразнаўства, справу зберажэння Купалаўскай спадчыны.

Запрашаем усіх, хто цікавіцца беларускай культурай наведваць у гэты год музейныя ўстановы, звязаныя з жыццём і творчасцю песняра, шматлікія мерапрыемствы, якія будуць ладзіцца на працягу года і, нарэшце – перачытаем Янку Купалу разам!



